*Бібліятэка часопіса «Вожык» №1 (230)*

Генадзь БУРАЎКІН

# КОНЬ НЕЗАЦУГЛЯНЫ

*ВЕРШЫ, ЖАРТЫ, ПЕСНІ*

*Мастацкае афармленне Аляксандра КАРШАКЕВІЧА*

МІНСК — 1996

**ВЫДАЕЦЦА З МАЯ 1957 ГОДА.**








*Генадзь Бураўкін дажыўся да 60-ці гадоў і да кніжкі сатыры і гумару. Адбылося тое, што мусіла адбыцца, паколькі 60 — непазбежны рубеж для кожнага сталага творцы, а сатырычна-гумарыстычная кніжка — аб'ектыўная непазбежнасць для вясёлага, дасціпнага, вострага на язык чалавека, які ніколі і ні пры якіх абставінах па слова ў кішэнь не лезе.*

*Цяжка сказаць, чаму гэты дэбют не адбыўся раней: ці то Генадзь лічыў, што на сатырычна-гумарыстычнай дзялянцы шчыруе шмат ягоных сяброў-паплечнікаў, таму вытыркацца не з рукі, ці то не хацеў засмучаць крытыку, якая замацавала за ім амплуа лірыка і публіцыста, спісваючы «на лукавого» ўсё, што не ўкладвалася ў выверанае «навуковымі» шаблонамі рэнаме. А шчыра кажучы, калі не кандыдацкай з аўтаматычным членствам у СП, то хоць аспіранцкага*

*даследавання на тэму «Сатырычныя творы і гумарыстычныя матывы ў лірыцы Генадзя Бураўкіна» ён даўно заслужыў. Такіх вершаў у Генадзя Бураўкіна назбіралася на ладны томік. Аднак «Бібліятэка «Вожыка» абмежавана двума аркушамі...*

*Рыхтуючы рукапіс, Бураўкін свядома пакінуў на потым многія сатырычныя і гумарыстычныя творы апошняга часу, уключыўшы толькі невялічкую колькасць напісаных у розны час вядомых сваіх рэчаў, якія крытыка так і не адважылася «афіцыйна» аднесці да сатыры і гумару. І ахрысціў кніжку назвай сваёй папулярнай песні...*

*Такім чынам, Генадзь Бураўкін 60-гадовы юбілей адзначыў рашучым разбурэннем звыклага стэрэатыпу, даказаў, што творчасць сапраўднага мастака ні ў якія стэрэатыпы не ўкладваецца. І той, хто прачытае гэтую кніжачку, пераканаецца ў гэтым і, безумоўна, усміхнецца. Разам з аўтарам.*

**Валянцін БЛАКІТ.**

## НОВЫЯ ПАНЫ



**Цяпер шыкуюць новыя паны.**
**Адкінуўшы айчынныя аршыны,**
**На лад заморскі хочуць жыць яны,**
**Мяняючы пасады і машыны.**

**Іх ап'яніў улады ліпкі чад.**
**Іх асляпіў удачы бляск падманны.**
**Яны ўсё, не сціхаючы, крычаць**
**Пра блізкі рай і дождж нябеснай манны.**

**Да іх не даляталоць галасы**
**Адчаю,**
**Безнадзейнасці,**
**Трывогі.**
**Яны — вышэй,**
**Дзяржаўныя хлусы,**
**Нахабныя, дурныя дэмагогі.**

**Што ім дзяцей няшчасных лахманы! —**
**Нявартая і ўвагі іхняй дробязь...**
**Даруй усё ім, Божа,**
**бо яны**
**Не ведаюць зусім таго, што робяць.**

**Ідуць жалезным крокам па жыцці,**
**Тупою пыхай напінаюць грудзі...**
**Бог, можа, ім даруе.**
**Толькі ці**
**Даруюць ім абдураныя людзі?..**



## ПАРАДА ГРОЗНАМУ НАЧАЛЬНІКУ

**Ну адкуль ты,**
**Ну адкуль ты**
**На Парнас да нас прыйшоў**

Са сваім маленькім культам
І камандай прыбышоў!

Як жа лёс цябе прагледзеў,
Даў высокі кабінет,
Не ўлічыўшы ўрок суседзяў,
Не падумаўшы як след!

І цяпер па ўсёй краіне
Чуем песню мы адну:
«Без мяне усё загіне!»,
«Разганю!»,
«У крук сагну!»

І штодня гырчыш ты грозна
На народ,
Нібы на зброд.

Што ж,
Народ,
Вядома,
Розны.
Толькі ўсё-ткі ён —
Народ.

Хоць даўно ўздыхае глуха,
Ён — не ціхенькі прастак.
Паважай яго і слухай
І не тузай проста так.

І не плюй на ўсіх з трыбуны,
Не вядзі ў свой край бяды.
У адказ народ як плюне —
Дык і скоцішся тады...

## «ПЕРАЛОМНЫ»

Наш час на выбрыкі нястомны.
Хацеў перадыхнуць народ,
Ды кажуць зноў,
Што пераломны
І вырашальны
Будзе год.

Як быццам мы чакалі мала,
Ператрывалі ўсё дарма.
Дроў столькі ўлада наламала,
Ды нешта вынікаў няма.

Даўно забылі стол скаромны.
Жыццё ва ўсіх —
Зусім не мёд.
Ды што ты хочаш:
Пераломны,
Як кажуць афіцыйна,
Год.

Падлічваем патроху страты,
Гузы гадуем на ілбе.
Але
Ніхто не вінаваты,
Апроч хіба саміх сябе.

І хоць нам маняць бессаромна,
З гнілых баляс гародзяць плот,
Мы ўсе ўздыхаем:
Пераломны
Усё змяніць павінен
Год.

Рабіць бы трэба пры нагодзе!
Ды абяцаць куды прасцей.
Здаўна ж гавораць у народзе:
Язык, вядома, без касцей.

І зноў начальнік вераломны
Ніяк закрыць не можа рот:
«Вы ж зразумейце —
Пераломны,
Апошні пераломны год!..»

Давайце ж крыкнем:
«Браце мілы!
Не чырваней перад людзьмі.
Як штосьць зрабіць не маеш сілы,
Дык хоць язык пераламі!»



## БАЖОК

Ён Богам стаць хацеў.
І ён паводзіць
Сябе, як Бог.
І зразумець не змог,
Што Бог з целаахоўнікам не ходзіць
І дабрыню не гоніць за парог.

Грахамі папракае ён няспынна
Паслужлівых хаўруснікаў сваіх,
І калі бачыць схіленыя спіны,
Дык верыць,
Што любоў схіліла іх.

Жыве штодзённа спадзяваннем кволым,
Што сам сябе праславіць на вякі
І поруч —
Як не ціхія анёлы,
Дык верныя да скону сябрукі.

А ўсе яны —
Апораю слабою
І лёгка прададуць за пірагі.
Ужо рагочуць тайна між сабою,
Як пнецца ён па дурасці ў багі.

## ХТО — САМ!

Начальнік
На трыбуне ўсмак
Каманду бэсціў грозна:
Той — бюракрат,
А той — лайдак,
Той — сябра мафіёзны.

Прыбыткі коцяцца на дол...
Ідуць рэформы туга...
І што тут зробіш? —
Навакол
То — дурань,
То — зладзюга...

І одум сам сабою ўзнік
Няўмольны,
Хоць зарэжце:
Калі ты —
Іхні кіраўнік,
Дык хто ж ты сам урэшце!



# КАМПРАМІСЫ

Ах, кампрамісы, кампрамісы —
Улева крок ці ўправа крок.
І ўжо жандар праходзіць міма,
І ўжо не ўзведзены курок.

І ўжо не выдумкаю злою
І не абразлівым радком,
А літасцівай пахвалою
Цябе аблашчваюць крадком.

Табе руку падаць гатовы,
Хоць і з аглядкаю,
а ўсё ж...
А за спіной — напагатове
Крывы, з зазубінамі нож.

Ах, кампрамісы, кампрамісы —
Малочных рэчак берагі.
Давай другім і сам карміся.
Кінь сухары — еш пірагі!

Табе ваду заменяць супам,
Худы сяннік — пухавіком.
Ты толькі волю дай уступкам,
Сярод ваўкоў завый ваўком.

Ты толькі збоч,
ты толькі збойся,
Зняверся ў нечым хоць на міг —
І лоўка прашмыгне забойца
Тваіх сяброў, ідэй тваіх.

Ах, кампрамісы, кампрамісы —
Стратэгій тонкая гульня.
А ўжо душу халоднай пысай
Вынюхвае шпікоў гайня.

І ўжо ўсучыць лаўчыцца вораг
Свае паскудныя дары.
І ўжо сырэе гнеўны порах.
І ўжо тупеюць тапары.

А потым будзе кроў дыміцца,
Ударацъ боты па касцях...

Ах, кампрамісы, кампрамісы!..
І рукі выпускаюць сцяг...

# ДЭВАЛЬВАЦЫЯ

Спекуляцыя, прафанацыя,
Як іржа, раз'ядаюць свет.
«Дэвальвацыя!», «Дэвальвацыя!» —
Чорна ўзмахваюць крылы газет.

Не адбіцца, не адплявацца
Ад спакус, што расставіла зло.
Метастазамі дэвальвацый
Навакол усё апляло.

Глухне радыё ад дэкламацый
Генералаў, паэтаў, паслоў.
Найшырэйшая з дэвальвацый —
Дэвальвацыя гучных слоў.

З путаў ледзь пачалі вырывацца,
А ўжо ў новых аковах рабы.
Найпадлейшая з дэвальвацый —
Дэвальвацыя барацьбы.

Не баяцца чыны надарвацца:
У метале — да пасталоў.
Найсмяшнейшая з дэвальвацый —
Дэвальвацыя медалёў...

На каго, на што спадзявацца!
Мама, ты хоць абарані!
Найстрашнейшая з дэвальвацый —
Дэвальвацыя дабрыні.

Зачыняюцца душы і дзверы.
І на мужнасці вісне замок...
Дэвальвацыя праўды і веры —
Як трывогі апошні званок...



# НЕКАЛЬКІ ЖАРТАЎЛІВЫХ ДЫЯЛОГАЎ

*З СОНЦАМ*

Вечар па небе едзе
На аднаколавым веласіпедзе.
Тармозіць —
і затухае
Бліскание чырвоных спіц.
Сонца за цёмныя сосны
Скацілася недзе.
Спіць.

Як там яму — у Амерыцы!
Не горача!
Не мулка!
Усё-такі Амерыка —
Не наша старана.
Там і каровы, напэўна,
Па-іншаму мукаюць,
І капіталісты стаяць ля стырна...

І пайшоў я да сонца ў Амерыку.
Пералез праз хрыбет Урала.
Праз Енісей пераскочыў.
Прадзёрся праз зялёнае шчаціние тайгі.
І прыйшоў.
А сонца не спала.
І злосць мяне разабрала:
Што гэта за беспрынцыпнасць —
Свяціць і тым, і другім!

Такая неперабарлівасць
Са здрадаю нават мяжуе.
Вось вам і ўсёдаравальнасць,
І прымірэнчасць сама:
Уранні — грэе рабочага,
Увечары — грэе буржуя.
А кажуць яшчэ,
Што на сонцы плямаў няма.

Сонца глядзіць спакойна.
Не спрачаецца і не сварыцца.
І кажа:
— Не кіпяціся.
Хто можа мяне самалётам дагнаць!
Хто мікраклімат мае!
Хто грэецца кварцам!
Знаць.

А хто ў жоўтай Афрыцы
І ў блакітнай Ґрэцыі
Майму кожнаму промню,
Як выратаванню, рад,
Каб пасля галоднага вечара,
Пасля начы беспрытульнай сагрэцца!
Пралетарыят.

Ніхто без мяне —
Ні Бог, ні міласэрная пані —
Не запаліць жабраку
Надзеі тонкую стэарынавую свячу.
Вось і кручуся,
Чырвонае ад недасыпання.
Уранні — тут,
Увечары — там
Свячу.

Ты, чалавек,
Сам наводзь на зямлі справядлівасць.
Майго ж старога парадку —
Не руш...

...І я пакланіўся нізка.
І пачырванеў сарамліва.
І зняў капялюш.

### З МУРАШОМ

З вялізнай жоўтай саломінай —
Падгіналіся ногі аж —
Поўз па галінцы зломленай
Лупаты, лабаты мураш.

Спыніўся, каб дых перавесці.
І я падышоў да яго.
— Слухай, — кажу, — урэшце
Рвешся ты так чаго!
Ты ж ад работы чорны.
Аддыхайся, не спяшы.
Праўду пішуць вучоныя —
Дзіўныя вы, мурашы...

Ён сеў ля саломіны чынна —
Пот блішчыць на ілбе:
— Вам памагаюць машыны.
А мы ж усё — на сабе.



У вас і лазер, і атам,
І краны, і трактары.
А ў нас —
Шэсць лап слабаватых
Ды цёплае сонца ўгары.

У нас трэба ўсё самому.
На ўласным сваім плячы
Колькі цяжкіх саломін
Трэба прывалачы!

Выспацца нават некалі:
Лёг, а ўжо трэба ўставаць...
Паслухай,
Будзь чалавекам —
Не перашкаджай працаваць!..

### З ТРУТНЕМ

На пасецы ўсё ад звону гуло.
Стаяў гармідар вясёлы.
То мчаліся ў ранішні луг за сяло,
То назад вярталіся пчолы.

Стамлёна спускаліся да латака,
З ног абтрасалі ўзяткі.
Як хмарка, крылатая талака
Мільгала ля кожнай хаткі.

Пачаўся летні духмяны дзень,
Сонечны,
доўгі,
трудны.
А за калодай, дзе шэры цень,
Ляжалі сонныя трутні.

Адзін пазяхнуў, пачасаў спіну,
Выпрастаўся з асалодай
І мне па-змоўніцку падміргнуў:
— Ґлынуць бы вады халоднай!

— А як жа пчолы!
За рэйсам рэйс
Шнуруюць на луг далёкі...
— Дурныя!
Маглі б пачакаць, падурэць,
Налёталіся б пасля спёкі.

Што, іх гоніць нехта ў каршэнь!
Ты расшчапі калоду —

Хопіць усім нам на цэлы дзень.
Там жа, як лёду, мёду.

Не могуць гадзіны адной пасядзець,
Лепяць і лепяць соты.
А што як раптам прыйдзе мядзведзь —
Бывай, цэлы месяц работы!

Восенню выграбе мёд чалавек —
Паўгода штодзённай працы,
Цукру падсуне ім —
Жруць,
         і павек
Не могуць ні ў чым разабрацца.

Да самага вечара будуць звінець,
Не вылузнуць ледзьве са скуры...
А я не працую.
Затое мяне
Ніколі ніхто не абдурыць...

Я ўжо нахіліўся яго раздушыць.
Ды раптам рука задрыжала:
У трутня ж напагатове заўжды
Доўгае вострае джала.

Ягоны балючы, пякучы агонь
На дзень мне жыццё атруціць...

...І зарагатаў ён мне наўздагон —
Вялізны калматы труцень:
«А ў мяне ж джала няма!»

## САБАКАРЫ

Братамі мне —
          усе жывыя.
Люблю ласёў,
          люблю баброў.
Але здаецца,
          што завыю
Ад гарадскіх сабакароў,
Калі дзябёлыя кабеты
І дзецюкоў джынсовых раць
Вязуць,
     вядуць,
          нясуць, як дзетак,
Сабак і сучак «прагуляць».

Ім трэба свежае паветра,
Вячэрні сцішаны прастор.
Ступаюць колі,
          нібы мэтры,
Ідзе насуплены баксёр.
Імчаць настырныя аўчаркі.
Сапе раскормлены бульдог.





Як вераб'і ў зімовым парку,
Балонкі ціснуцца да ног...

А побач
     юныя бароды
Размовы тонкія вядуць
Не пра прыроду —
          пра пароду,
Пра чуйны нюх
          і лёгкі дух.

Любуюцца з замілаваннем
І з веданнем —
          што ні кажы, —
Як іхні псюк ля дрэва стане
Ці хвост памацае чужы...

Тады ваўком завыць гатовы
Я між разбэшчаных звяроў...
Не пра сабак я —
          што вы,
          што вы!
Мой гнеў —
Супроць гаспадароў.
Я б зразумеў іх,
          каб не ведаў,
Што з радаслоўнаю шчанюк
Для іх мілей,
          чым сын суседаў
Ці нават родны свой унук.

Я б паважаў іх,
          каб не бачыў,
Што ім дайсці няма калі
Ад клопатаў пра лёс сабачы
Да клопатаў пра лёс зямлі...

Спяшаюць галубы схавацца.
Малеча тоіцца ў двары,
Калі клыкастых гадаванцаў
Выводзяць зноў сабакары.

У пальцах —
          павадкі вужамі.
На пальцах —
          ваўкадаваў шчэць.
І самі ўжо не заўважаюць,
Як пачынаюць сабачэць...

# МЯШОК З МЕДАЛЯМІ

*(КАЗКА-БЫЛЬ)*

Ішоў чалавек.
У руках — мяшок.
А ў ім —
Бляшкі-рэгаліі.
Сэрца дрыжыць —
За штуршком штуршок —
Каб толькі не адабралі!

Гэта ж дажыўся
У рэшце рэшт:
Свая рука —
Уладыка.
Калі ніхто
Мех не адбярэ,
Чапляй адзнакі
Без ліку.

Глядзеў ён з нянавісцю
Па баках —
Горла гатоў перагрызці
Нават у лепшага дружбака,
З кім соллю дзяліўся
Калісьці.

Зайшоў чалавек
У дрымучы лес,
Сеў пад сасной зялёнай
І асцярожна
Рукой залез
У мех,
Поўны меднага звону.

І выцягнуў ордэн.
За ім — другі.
А потым —
Медаль бліскучы.
І паплылі ў вачах кругі.
І лес пахіснуўся ад шчасця.

Ён вешаў на правы,
На левы бок,
Прышпіліць на спіну стараўся,
Вакол,
Як той зацкаваны воўк,
Спалохана азіраўся.

І вось ужо,
З галавы да ног



Абвешаны ўсімі рэгаліямі,
Ён на нагах устаяць не змог —
І грымнуўся
На прагаліне.

Ваўкі завылі непадалёк.
На асінах залопала лісце...
Але адшпіліць
Хоць адзін медалёк
Рукі не падняліся.

А ў змроку
Стары пугач галасіў,
Яхкаў вяпрук галодны.
І не было ў чалавека сіл
Цягнуць на сабе ўзнагароды.

Паклікаць людзей,
Ад бяды ўцячы
Не далі чалавеку
Рэгаліі.
І моўчкі ваўкі маладыя ўначы
Ягоны шкілет абглыдалі...

...Таго чалавека
Зусім не шкада.
Ды недзе ж
Ляжыць на выгодзе
Яшчэ не пусты
Той мяшок —
І бяда,
Калі яго нехта знойдзе...



# ЗАСТОЛЛЕ ПАСЛЯ АБАРОНЫ АДНОЙ ДЫСЕРТАЦЫІ

Пакінуты ў гардэробе цяжкія партфелі,
Напакаваныя цытатамі з кніжак чужых.
Афіцыянткі,
чароўныя, нібы феі,
Даўно ўжо расклалі відэльцы і нажы.

Без вясёлага булькатання засумавалі
фужэры.
Дайце ім звону касмічны тэмп!
О, тут даўно ўжо гэтак не жэрлі,
Як на гэтых памінках па адной з навуковых тэм!

Не саромейцеся:
навука — рахманая і нямая,
Яна і не гэткіх корміць даўно.
А тое, што дысертацыя карысці не мае,
Дапаможа забыцца віно.

Не здзіўляйцеся,
Што ў бяседнікаў думка ў вачах патухла, —
Не патрабуйце сэнсу ад балбатуноў.
Лысы тамада,
самаздаволены, як квактуха,
Налаўчыўся выседжваць тосты і з баўтуноў.

Прыслухайцеся,
як ідзе гаворка навуковая
Пра салаты,
ікру
і вэнджанага вугра,
Як раздабрэлы прафесар дацэнту расталкоўвае,
Што гарэлку на каньяк замяніць пара,
З якою дасведчанасцю падлічваюць калорыі,
Адсоўваючы сыру скрылі перасохлыя,
Перспектыўны кандыдат гісторыі
І новаспечаны доктар філасофіі...

А пасярод стала,
зацьмяваючы ўсё,
Акружаная сытым іржаннем,
Ляжыць навука,
Якуюператварылі ў фаршыраванае парасё
І цяпер рэжуць тупымі нажамі.

Віноўнік урачыстасці да суседзяў лезе смаўжом,
Сальныя анекдоты шэпча на вуха...
Ад навукі ён абараніўся ўжо.
Ці абароніцца ад яго навука!..

# ШТО ТРЭБА

Важнай шышцы пазванілі
Ці мо «зверху», ці то з неба
І спыталі клапатліва:
— Што табе на сёння трэба!

Над сталом устаў начальнік,
Паважнеў, як для даклада,
І, не думаючы доўга,
Адказаў адно:
— Улада.



Мне не трэба прывілеяў,
Шакаладу-мармеладу,
Ні прыгожых сакратарак,
Ні вялікага акладу,
Ні пузатага партфеля,
Ні сакрэтнага буфета,
Ні прафесарскага звання,
Ні музейнага партрэта...

Сам сабе ўсміхнуўся хітра:
«Калі буду мець уладу,
Дык, напэўна, атрымаю
І зарплату, і пасаду,
Прыйдзе ўсё само сабою —
Добры чын і ўсё да чына:
І дагледжаная дача,
І службовая машына,
І паслужліва-ліслівa
Будуць побач аціраццa
І тупыя даручэнцы,
І разумныя дарадцы.
Прынясуць мне і бутэльку,
І прэзенцікі ў канверце...
Так што мне патрэбна ўлада
І на сёння, і да смерці».

Паўтарыў у трубку сціпла,
Не мяняючы пагляда:
— Анічога мне не трэба.
Толькі ўлада,
Толькі ўлада.

# ДА ПЫТАННЯ АБ КАДРАХ

Ці выпадак надзвычайны,
Ці звычайнае жыццё, —
Як сказаў адзін начальнік,
Вызначаюць кадры ўсё.

І таму на гэту тэму,
Каб падкрэсліць ранг і роль,

Прадугледзелі сістэму,
Справаздачнасць
І кантроль.

Ці то ў хаце,
Ці то ў штаце,
Пры любой пары і квадры,



На пасадзе і зарплаце —
Кадры,
Кадры,
Кадры,
Кадры.

Падбіраюць,
Навучаюць,
Скарачаюць,
Вылучаюць,
Дрэсіруюць,
Фарміруюць,
Афармляюць
Гэту плойму
І нарэшце прызначаюць
У каманду ці ў абойму.
І калі які нябога
Абы-што не ляпне здуру,
Прывядзе яго дарога
Напрасткі ў наменклатуру.

Ну а там усё нязменна —
У канторы ці ў эскадры:
Знізу — болей,
Зверху — меней —
Кадры,
Кадры,
Кадры,
Кадры.

Аніякае сваволі,
Кожны знае сваё месца.
Каму — меней,
Каму — болей
Смачна п'ецца,
Сытна есца.

А наверсе —
Шэф галоўны,
Ён бязгрэшны, нібы падрэ,
І, дзяржаўнай ласкі поўны,
Сцеражэ штодзённа кадры.

Паслухмянасць і адвагу
І любую непаладку
Ён прымае пад увагу
І бярэ на прамакатку.

Калі ж нейкі непакора
Раптам пойдзе ў рожкі з босам,
Дык за гэта вельмі скора
Можа голым стаць і босым.

Ці жаніўся хто, ці спіўся —
Шэф не ўспыхне ні хвілінкі.
Для яго ўсе ў доўгім спісе —
Толькі штатныя адзінкі.

Свой закон укараняе
Без сумнення і без спешкі,
Што ўсе кадры ў родным краі —
Для гульні вялікай пешкі...

А так хочацца,
Каб будзень
Не згінаў у крук плячэй
І зусім не пешкі — людзі
Пайдналіся хутчэй,

І ў знясіленай дзяржаве
Памянялася жыццё,
І нарэшце ў кожнай справе
Вырашалі л ю д з і ўсё!..

# ГІСТОРЫЯ АБАЛДУЯ

Лёс яго змаглі разгледзець
І прадвызначыць,
калі,
Хлапчука яшчэ,
суседзі
Абалдуем нараклі.

Як было не падзівіцца,
Калі ўвесь свой вольны час

Ён чытаў перадавіцы,
Некралогі вывучаў.

Нехта вёў дзяўчат у лодку,
Локаць ціснучы крадком.
Ён іўраў на сходах глотку,
Біў у грудзі кулаком:
«Мы павысім!»
«Мы узнімем!»



«Маналітна!»
«Як адзін!».
«Калі трэба,
Разам з вымем
Малако ўсё аддадзім!..»

Хоць даваў ён толькі дулю,
Але,
справе на бяду,
Запрыкмеціў Абалдуя
Сам раённы Абалдуй.
У душы адчуўшы брата,
Падтрымаў яго як след —
Даў яму партфель пузаты
І прасторны кабінет.

І панеслася:
«Патроім!»
«Забяспечым новы рост!»
«А сумніцельным настроям
Да канца прыціснем хвост!»
Пляжыў крытыка любога
Так, што той кідаўся ніц,
То цытатай з некралога,
То радком з перадавіц.

І глядзі ты —
Не будуе,
Не ўтрамбоўвае сянаж,
А ўсё ёсць у Абалдуя:
І машына, і гараж.

Паявіўся выгляд панскі.
Яго маюць на віду
Абласны, рэспубліканскі
І цэнтральны Абалдуй.

Ён ужо вось-вось гатовы
Стаць на новую граду...
Ды прыйшла перабудова —
І прыціхнуў Абалдуй.

Не гырчыць на ўсіх пагрозна
З-за высокага стала,
Пазірае асцярожна —
Каб пасада не сплыла.

Як сапраўдны пралетарый,
Цёплым вечарам адзін
Пехатой з пустою тарай
Сам прастуе ў магазін.

За жыццём цікуе ласа
І маўчыць, як хворы леў...
Але вось ужо ён з часам
Ачуняў і асмялеў.
Зразумеў,
як вецер дуе,
Хто за што каго хваліў.
І прыйшоў да Абалдуя
Новай дзейнасці прыліў.

Харахорыцца,
Віжуе,
Лямантуе тут і там:
«Канфіскуем у буржуя!»
«Бой дадзім ценевікам!»

Зноў ён гладкі і суровы,
Зычны голас не аслаб —
«Салавей перабудовы»,
«Архітэктар» і «прараб».

Лезе ўсюды што ёсць сілы,
Не баіцца тумакоў.
І шчаслівы —
Божа мілы! —
Колькі ўсюды дружбакоў!..

...Пасміхаецца рабочы.
Злосна курыць селянін...
Можа, хай сабе балбоча —
Хіба ён такі адзін!

Ды, калі народ бядуе,
Дэфіцыт з усіх бакоў,
Ці не лепш без Абалдуя
І ягоных сябрукоў!..



# КАНТОРА

Распаўзліся ў Беларусі
Дэфіцыт і недабор.
Ды не менее чамусьці
Розных офісаў-кантор.
Як даўней, яны пры сіле,
Звыклі да сучаснага.
Нездарма іх ахрысцілі
«Здзек з народа ўласнага».

Шыльда важная ў канторы
І рыштунак немалы:
Пачакальні,
Калідоры,
Сейфы,
Шафы
І сталы.

А як трэба ўзяць даведку,
Дык не менш як сто разоў
Пабяжыш з нізоў да верху,
Потым з верху да нізоў,
Справа ўлева,
Злева ўправа.
Згоніш тысячу патоў.
І прытым табе ласкава
Памагчы любы гатоў.
Ды адзін не мае ўлады,
А ў другога — шмат папер,
Ну, а трэцяму загадам
Памянялі курс цяпер.

Словам, субяседнікі —
Нічоганяведнікі.

У канторы ўсеагульны
Рэфарматарскі парыў:
Хто — вядзе з экранам гульні,
Хто — чытае дэтэктыў,
Хто — пасе красвордаў статак,
Хто — здымае кавай стрэс...
Кожны мае свой занятак,
Свой любімы інтарэс.

Таўстуны-вантробнікі —
Нічоганяробнікі.

А на скаргі,
Як звычайна,
Не гадуючы надзей,
Сумна зморшчыцца начальнік
І рукамі развядзе.

Гэты ўвесь бядлам шалёны
Ён даўно б парушыў сам,
Ды няма ў яго законаў
І дзяржаўных тэлеграм.

Нашыя чыноўнікі —
Ніўчымневіноўнікі.

І вядзе людское гора
Да пытання яснага:
— А на чорта нам кантора —
Здзек з народа ўласнага!

# МЯНЦЕЙ

Памік вяскоўцамі Мацей
Павагі меў не шмат.
Але аднойчы на гасцей
Натрапіў акурат,
Калі яшчэ ў пачатку дня
На ферму,
Да кароў
Іх
Раздабрэлы старшыня
З кампаніяй прывёў.

Ці то з Амерыкі яны,
Ці з Англіі былі,
Бо мелі чорныя штаны
І светлыя брылі.

І запыталіся ў яго —
Натрапіўся якраз, —
Ці не хапае мо чаго,
Ці ўсё дае калгас!

Ён горда ўскінуў галаву,
Не спудзіўся ані:
— Як сыр у масле, я жыву,
Во, дзякуй старшыні.

Гарэлка, сала, хлеб заўжды
І мёд ёсць у мяне.
Багацця гэткага дзяды
Не бачылі і ў сне.

Ракою малако цячэ,
Культбыт на вышыні.
Райкому дзякуй.
А яшчэ
Во, дзякуй старшыні.

Далей пачаў,
Ажно ўспацеў,
Пра дружбу і пра мір.
— Ты не Мацей, брат.
Ты — Мянцей, —
Здзівіўся брыгадзір.

А для Мацея з той пары
Настаў шчаслівы час —
Амаль не корпаўся ў двары,
А прадстаўляў калгас

Ці то ў раённай грамадзе,
Дзе помняць землякі,
Ці то ў самой сталіцы,
дзе
Жывуць кіраўнікі.

Усюды шчыраваў Мацей
І ад сялянскіх мас
Хваліў начальства ўсіх масцей
І славіў слаўны час.

Адно суседзі толькі вось
Пыталі ўсё часцей:
— Ці па сабе ты выбраў воз!
Ці не прыстаў, Мянцей!

Але затое старшыня
Меў падыход другі,
Даваў і сена, і каня
Заўсёды без чаргі.

І хай дудзяць:
«Дурны Мянцей»,
Смяюцца хай з яго.
Ён забяспечыў і дзяцей
І ўнукаў — ого-го!

А дэмакратыі Мацей
Ніколечкі не рад:
Пляц для парадаў апусцеў,
Няма былых нарад.

Бурчыць ён злосна:
— Давялі!
Да торбы шлях прамы.
Намнога лепш было,
Калі
Трымалі лейцы мы...
Параспускалі языкі.
За шкірку браць пара!
Няма кіруючай рукі.
Няма гаспадара...

І зноў чакае ён гасцей,
Што вернуцца назад..
Хто ж лепш ім скажа,
Чым Мянцей,
Пра наш шчаслівы лад!..



# ДЗЯРЖАЎНЫЯ ДАЛАКОПЫ

Рыдлёўкі ў вас не затупіліся.
І вы на працягу гадоў
За сваякоў не заступіліся,
За мерцвякоў —
Напагатоў.

Закопваць труны не стаміліся.
З каварнай спрытнасцю зямной
На ўсякі выпадак стаіліся
У балбатлівых за спіной.

Вас не кранулі,
Не сурочылі
У дні адліг і халадоў
Ні слёзы горкія сірочыя,
Ні гучныя праклёны ўдоў.

Да ўцех вы засталіся ласымі,
Нахабнікі
І піякі.
Вось толькі брыджы,
Што з лампасамі,
Схавалі ў цёмныя куткі.

Ды не схаваць вам
Ваша зондэрства,
Каб нават змёў усё патоп...
І на зямлі пакутнай
Знойдзецца
Для вас таксама далакоп.

# ДОСЦЬ!



П'юць у нас
Пенсіянеры,
Прэзідэнты
І прэм'еры,
Без закускі
І без меры.
Ах!
Падпісаўшы дагаворы,
Калі проста не ў гуморы,
Бо вакол —
Гарэлкі мора.
Жах!

Зранку п'юць
Для апахмелкі,
Падганяюць часу стрэлкі.
Ну а вечарам —
«Сустрэлкі»:
Госць.
З кварты,
З конаўкі,
Кілішка.
І няма ніколі лішка,
І не трэба перадышка
Штосьь.

Сіл няма ужо спыніцца.
Не мялее ўсё крыніца.
У руках —
Бутыль-«сініца»

Ёсць.
Скора ўсе паперап'юцца.
Скора ўсе паапераб'юцца.
Крыкнуць хочацца мне:
— Людцы!
Досць!

Колькі ўсюды інтарэса:
Стадыён,
Кіно
І прэса,
Дзеці —
Пасынкі прагрэса,
Сад.
З нас жа цэлы свет рагоча.
Прадзярыце ўрэшце вочы.
Хто ж па-людску жыць не хоча!..
Ат!..

## ПРУСАКІ

*(ПАВОДЛЕ НАРОДНАГА)*

Можа, хто і вінаваты,
Што пішчом з усіх бакоў
Паналезла ў нашы хаты
Ненажэрных прусакоў.

Не пытаючы прытулку,
Пазаймалі ўсе куткі —
І не стала паратунку
Ад нахабнікаў такіх.

З мілай ласкай і са сваркай
Просяць бабы мужыкоў:
— Заняліся б гаспадаркай —
Паганялі б прусакоў.

Мужыкі ж бурчаць ляніва:
— Што за клопат,
Божа мой!
Хай жывуць.
Такое дзіва.
Здохнуць самі ўсе зімой.

Ды залез мароз у сені,
Намяла снягоў зіма,
А на д'яблава насенне
Ўсё пагібелі няма.
Як мяцеліцы ні граюць,
Не стамляюцца яны —
На муку пераціраюць
Хлеб,
І крупы,
І бліны.

Хоць ты кліч на дапамогу,
Бо не справіцца ніяк —
Занялі ўжо ўсю падлогу,
Да краёў забілі гляк,
Нейкі шастае на печы,
Нейкі посцілку грызе,
Прабіраецца за плечы,
Шпацыруе па назе...

І мужоў «пілуюць» жонкі,
Не шкадуюць грымакоў:
— Скора бегчы трэба вонкі
Ад праклятых прусакоў.
Як мага хутчэй мяняйце
Свой характар, лайдакі,
А то будуць жыць у хаце
Да сконвеку прусакі...





## ПРАГМАТЫК



У глухім рачным закутку —
Хто іх ведае, чаму,
Пара лебедзяў бялютkіх
Засталася на зіму.

Дык малыя дзеці нашы
Ім панеслі хто што мог —
Крупы,
Хлеб,
Пюрэ
І кашу,
І цукеркі,
І пірог.

Толькі вось суседскі Коля
Убаку стаяў адзін
І да лебедзяў ніколі
З сябрукамі не хадзіў.

Папытаўся я ў суседа,
Як дзятва пабегла зноў:
— Ты чаму не мчышся следам
Да рачных прыгажуноў!

Ён спыніўся на дарозе,
Смех схаваў у кулаку
І паблажліва-сур'ёзна
Адказаў, як хлапчуку:

— Я наўнасць іх дурную
Не магу прыняць, прабач,
Бо кабанчыка гадую —
Вось каму патрэбен харч.

## КАНАДСКІ ХАКЕЙ

Да д'ябла тэлевізары!
З білетамі — о'кей! —
Нібы з замежнай візаю,
Імчацца на хакей
Цырульнікі,
правізары,
Начальнікі з падлізамі,
Свяшчэннікі пад рызамі,
Дызайнер
І жакей.

Нібы ў бляшанцы шпроты
(«Падцісніце зады!»),
Яны ў Палацы спорту
Рассованы ў рады.
І над паветрам спёртым,
Над перагарам з потам
Запаленай употай
Паплыў цыгаркі дым...

Да д'ябла ўсе тэатры!
Схавайся ў цень, футбол!
Выходзяць гладыятары —
Ілбы як на падбор.
А гул,
як лава ў кратэры,
Азартам сэрцы кратае.
Давайце ж, чэрці клятыя,
Бой!

Нібы сцюдзёнкі шайку
Уніз лінула столь —
Ахрыпла:
— Шайбу! Шайбу! —
Крычаць у глотак сто
Балельшчыцкія роты
З лавушкамі ратоў...
А шайба — за варотамі,
А шайба —
ля бартоў.

Трэнер сваіх пад'юшвае,
Чужым праклёны шле.
І ўжо трашчыць пад клюшкаю,
Як шалупіна, шлем.
І ўжо кагосьці
з лёту
Падмялі старчака
І паднімаюць з лёду,
Як мерцвяка.

Правілаў ляйчына
Аслабла ўшчэнт.
З тупасцю бычынай
Ігрок суддзю таўчэ.

А зала вар'яцее,
Люцее ад крыві,
Са смакам і надзеяй
Заходзіцца:
— Даві!
Дзяцюк з вачмі рачынымі,
Вусаценькі лаўчыла,
Лыткастая дзяўчына
Упрошваюць:
— Яшчэ!

Саромеецца чына
Генерал,
але ж
Шэпча:
— Малайчына!
Добра б'еш!..

О Божа мой, о Божа!
Няўжо ўсё гэта — спорт!!
Няўжо ўсё гэта можна —
Галавою ў борт!..
Ніхто не дапаможа,
Калі пад клюшкай рожа,
Як пад нажом — апорт...

О Божа мой, о Божа!
Няўжо ўсё гэта — спорт!!.

## СПРОБА ВЯСЁЛАЙ ПЕСЕНЬКІ ПРА НЕТЫПОВЫХ ТУРЫСТАЎ

Хто за дзвесце кіламетраў,
Хто за трыста,
Хто з гітарай,
Хто з транзістарам,
Хто без —
На прыроду
Выпраўляюцца турысты.
Сцеражыся і дрыжы,
Шаноўны лес!

Колькі хуткасці,
Напору,
Весялосці —
Наваколле
Будзе войкаць і грымець!
Не трапляйся пад руку,
Вавёрка,
Лось
Ці
Ад маліны палагоднелы
Мядзведзь!

На траву ляцяць
Бляшанкі,
Шклянкі,





Пляшкі —
Кожны вольны і рашучы,
Што казак.
Распаўзайцеся,
Няўцямныя мурашкі —
Homo sapiens
Развязвае рукзак.

Аглушыў паляну
Стук сякеры звонкі.
Ліжа полымя
Галіны і камлі...
Разбягайцеся,
Бярозкі і сасонкі!
Што ж вы, родныя,
Да долу прыраслі!

Салавей,
Канчай свае старыя оды —
Ґэта ўсё
Для недасведчанай душы.
Першакласныя дыёды і трыёды
Шэйкам здолеюць
Пярнатых заглушыць.

Ля палатак
Дагарае корч смалісты.
Змоўк транзістар —
Батарэйкі падвялі...
Засынаюць
Асавелыя турысты.
Не будзі!
Хай будзе ціха на зямлі!

## ПАПЫТАЙЦЕ ФІЛАРЭТА...

Як у нас бывае гэта,
Як людзей мяняе свет,
Папытайце Філарэта.
Вам раскажа Філарэт.

Сан шануючы ягоны,
Не пакепвайце з таго,
Як дзяржаўныя персоны
Уцякалі ад яго,
Як партыйныя падлізы,
Несучы на твары жах,
Адбягалі ўбок ад рызы
І свяшчэннага крыжа.

Гэта ўсё не толькі модна —
Было выгадна,
Калі
Чорны опіум народны
Выкрывалі і клялі.

А цяпер парыў інакшы
Зачмурае галаву.
І былыя слугі нашы
Пацягнуліся ў царкву,
Бо яны і ў часе гэтым
Вельмі хочуць цараваць
І ўладыку Філарэту
Лезуць рукі цалаваць.

Беражна трымаюць свечкі.
Не хаваючы слязы,
Быццам божыя авечкі,
Тупаюць пад абразы.
І ківаюць галавою.
І ўзнімаюць вочы ўверх.
І яны цяпер з царквою
Неразлучныя навек...

Ну а як завецца гэта,
Дзе тут Новы Запавет, —
Папытайце Філарэта.
Можа, скажа Філарэт...



## ПРЫЗНАННЕ СТАРОГА ХАЛАСЦЯКА

*(ПА МАТЫВАХ ДАЎНЯГА НАРОДНАГА ЖАРТУ)*

— Раскажу вам навіну...
— Ну.
— Як пайшоў я на вайну.
— Ну.
— Жонку кінуў я адну.
— Ну.
— А сусед меў свежыну.
— Ну...

— Ваяваў я, колькі мог.
— Ох!
— Быў ажно франтах на трох.
— Ох!
— Але ўрэшце перамог.
— Ох!
— І да жонкі на парог...

— Ну...

— «Доўга быў я на вайне!
— Не.
— Сумавала без мяне!
— Не.
— Ёсць капуста ў чыгуне!
— Не.
— Мой сынок на тапчане!
— Не...»

— Раззлаваўся не на смех.
— Эх!
— Ухапіў салдацкі мех.
— Эх!
— Рэчы згроб свае і збег.
— Эх!

— З той пары,
Мае сябры...
— Ну.
— Халасцяк я ўсё стары...
— Ну...
— Баб,
Агнём яны гары...
— Ну...
— Зараз бачу навылёт.
От!..

## БУДЗЬ СА МНОЙ НА «ТЫ»

*(ПЕСНЯ)*

Мне свае сакрэты шэпча
Нават вецер баравы...
Самы першы, самы лепшы,
Толькі ты са мной на «Вы».

У вячэрнім небе зоры
Ладзяць срэбныя масты.
Веру я, што вельмі скора
Будзеш ты са мной на «ты».

Па-над садам апусцелым
Пралятаюць жураўы.
Ты ж са мною, мой нясмелы,
Па-ранейшаму на «Вы».

Сарамлівы і няўклюдны,
Час марнуеш залаты.
Не падзенешся нікуды,
Будзеш ты са мной на «ты»...



## НАПАМІН ХАЛАСЦЯКУ

Так спрадвеку павялося,
Што знайсці мы ўсе павінны
Свайго шчасця, свайго лёсу,
Свайго сэрца палавіну.



І пакуль ты адзінокі
Пасярод жыццёвай прозы,
Ты як быццам аднабокі,
Несалідны, несур'ёзны.

Хоць дасведчаны і знаны,
І жывеш на ўзроўні века,
Ты ўсё роўна
без каханай —
Палавіна чалавека.

Як людзей ні судзіш строга,
Ды без жончынага вока
Ты яшчэ сябе самога
Разумееш неглыбока.

Так што вер наіўным вершам
І навек адно запомні:
Толькі любую сустрэўшы,
Станеш ты нарэшце поўным.

Ды глядзі
(і так бывае),
Каб цябе не падлавіла
Дарагая, дзелавая,
Ды чужая палавіна...

## КОНЬ НЕЗАЦУГЛЯНЫ

*(ПЕСНЯ)*

Там, дзе вечар на зямлю
Сыпле зор маністы,
Я злаўлю цябе, злаўлю,
Конь мой наравісты.

Праз палеткі і лясы,
Праз лугі, паляны
Ты нясі мяне, нясі,
Конь незацугляны!

Азірнуся ля сяла,
Падлячу да ганка,
Дзе чаромха расцвіла,
Дзе жыве каханка.

Да расплеценай касы
І да губ румяных
Ты нясі мяне, нясі,
Конь незацугляны!

Капытом каля вакон
Сон разбіць дазволю
І пасля цябе, мой конь,
Адпушчу на волю.

Праз палеткі і лясы,
Праз лугі, паляны
Ты ляці, мой конь, ляці,
Конь незацугляны!





# ЗМЕСТ

Литературно-художественное издание
Геннадий Николаевич БУРАВКИН
КОНЬ НЕЗАНУЗДАННЫЙ
Стихи, шутки, песни

Літаратурна-мастацкае выданне
Генадзь Мікалаевіч БУРАЎКІН
КОНЬ НЕЗАЦУГЛЯНЫ
Вершы, жарты, песні

Рэдактар Валянцін БОЛТАЧ

Тэхнічны рэдактар Галіна ГІГО. Карэктар Валянціна ШУСТ.

Здадзена ў набор 03. 07. 1996. Падпісана да друку 5.08.1996.
Фармат паперы 60x84 1/16. Папера афсетная № 1.
Гарнітура «Часопісна-сечаная». Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 1,87. Ул.-выд. арк. 2,0.
Тыраж 3 000 экз. Зак. 1002.

Адрас рэдакцыі:
220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.